


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 3 (48)
САКАВІК
2006 г.

**У нумары:**



# 25 сакавіка - гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі





Ніхай Жыве
Беларуская Народная Рэспубліка!



## ВЕРАЮ

Род людскі не злічыць вякоў,
Свой узрост
Ён згадкамі мерае.
Ад навалы з усіх бакоў
Беларусь засланялася вераю.




Кожнаму па сваім каўшу.
Як бабылка туга вячэрае.
Д'яблу не прадала душу,
Беларусь утрымалася вераю.

У нябёсаў святла стае,
Каб адпрэчыць хмурыну шэрую,
Адмаліўшы грахі свае,
Беларусь адродзіцца Вераю.

*Рыгор Барадулін*



*У першым нумары нашага выдання быў змешчаны матэрыял аб сустрэчы ў Браслаўскім касцёле з народным паэтам Беларусі **Рыгорам Барадуліным**, падчас якой прысутныя азнаёміліся са зборнікам паэзіі "Ксты".*

*Прапануем увазе чытача падборку вершаў са зборніка. У іх раскрываецца вялізная любоў Паэта да сваёй Бацькаўшчыны, Беларусі.*

* * *

Радзіма – дым ад вогнішча,
Якому дазволена ў Сусвеце падыміцца.
Яго кунежыць,
Прэч прагнаўшы стому,
Святая Мама –
Ў вечнай хаце жрыца.

Радзіма – смелая іскрынка жару,
Што грэе смутку зззяблыя далоні,
Каб даляглядзіцца шырэй абшару
І заставацца ў мройлівым палоне.

Радзіма – тая папялінка з прыску,
Што на чужыне залятае ў вока,
Каб як цяплей было свяціцца зблізку
Выгнанніцкай слязе
Сяўца й прарока.

Радзіма –
Дол і паднябессе тое,
Дзе ходзіць слова Бога пехатою.

*16 лютага 2003 г.*

РОС...

Цень Волі
І ў пячоры на сцяне
Хацеў акрэсліцца й дрыжэў азябла.
Агонь нявολі тлеў у зяпе д'ябла,
Гнеў ласкавеў яшчэ пры Перуне.

Цень Волі
Крылы птушак прымяраў,
Каб асланіць бег часу несупынны.
І горы гора прыгіналі спіны,
І хворы змрок пацíху паміраў.

Цень Волі днеў
І запрашаў святло
Даверыць людству
Позірк свой і подзіў.

Дзень Волі
Рос, як пасынак стагоддзяў,
Каб на зямлі жыццю
Цяплей было.

*2003*

* * *

Мы нясем свой крыж наканаваны.
Хто плячо падменіць,
Не чакаем.
Як ні душаць нас, мы не знікаем.
Шлях да волі
Не ў прысадах шаны.

Трэба –
Самі зробімся крыжамі,
Каб спачыў адчай на крыжавіне.
Слава, лёгкая на прыпаміне,
Расчытае нам наноў скрыжалі.

Там, дзе гай крыжоў пакарчаваны,
Ценям цесна на балючых лядах.
У нябёсах душаў і ў паглядах
Беларусь –
Наш крыж наканаваны...

*30 чэрвеня 2001 г.*

БЫЦЬ!

*Ігару Сарокіну*

Быць Беларусам –
Гэта значыць,
Свайго ні гуку не забыць,
Усё чужое перайначыць,
Каб Беларусі вечна быць!

Быць Беларусам –
Гэта значыць,
Вясёла з сумнай долі кпіць,
Да Бога сцежку верай значыць,
Нагбом з карца надзеі піць.

Быць Беларусам –
Гэта значыць,
За родны Край згараць на дым,
Па-беларуску чуць і бачыць
На гэтым свеце і на тым.

ІМПАРТ

Так, мы, беларусы, – еўрапейцы.
Што ж не скінем нетутэйшы хлуд?
Ці суседскія шануем лейцы
І, лічы што, імпартны хамут?

БЕЛАРУСЬ – ТЫ МОЙ СОН ВЕЛІКОДНЫ

Беларусь – ты мой сон велікодны,
Сон, што сніцца анёлам вясной.
Зрок і слых мой табою галодны,
Дух жыве мой табою адной.

Гэта ведае неба ды Мама –
Без цябе не бывае мяне.
І душа жыць не можа без храма,
Цяжка ёй у чужой старане.

Адусюль да цябе я імкнуся
Быць у шчасці з табой і ў бядзе.
Чысцінёю тваёй прычашчуся,
Сорам твой на мяне хай падзе.

КАБ НЕ ЎКРЫЎДЗІЎ...

Бога і Маму ў душы нашу,
Ступаю па грэшнай зямлі асцярожна,
Каб толькі не здрыгануць душу,
Звышняга й Маму не патрывожыць.

Богам Адзіным душа жыве.
Мама душу дабрыні навучае.
Там, па завоблачнай мураве,
Ходзіць журба з мамінымі вачамі.

Зычу хоць подых вясны ледзяшу,
Ясачку яснага досвітку скрусе.
Бога і Маму ў душы нашу.
Каб аніхто іх не ўкрыўдзіў, Малюся...

ГАСЦІНІЦА

Беларусь –
У цэнтры Еўропы гасцініца.
Дужа ў дзверы, заезнік,
Кулакамі не грукачы.
Хай сябе пачувае, як дома,
Кожны, хто спыніцца.
Толькі былі б ад гасцініцы
У гаспадара ключы.

# Лера Сом і Франц Сіўко.

* * *

## Сакавікая сустрэча ў Браславе

Для любога літаратара вельмі важна сустракацца з аўдыторыяй. Падчас размовы з чытачамі можна падзяліцца сваімі думкамі, развагамі наконт творчага працэсу, выказацца наконт надзённых праблем грамадства. Такія сустрэчы жывяць творчую асобу энергіяй далейшай стваральнай працы.

У дэмакратычным грамадстве сустрэчы творцы з аўдыторыяй наогул не рэгламентаваны – былі б ахвочыя аўтар і спажыўцы яго творчасці. У Беларусі ўлады падзялілі аўтараў на пажаданых і непажаданых для кантактаў з аўдыторыяй. У групу непажаданых трапілі тыя, хто займае пазіцыю, адрозную ад афіцыйнай, хто мае смеласць выказваць свае думкі. Для такіх творчых асоб аказаліся зачыненымі дзверы ў афіцыйныя ўстановы культуры, адукацыі. Але можна арганізоўваць сустрэчы ў неафіцыйным асяроддзі, для кола блізкіх па духу людзей.

Менавіта такая сустрэча адбылася ў адзін з сакавіцкіх вечароў у Браславе. У гасцях у аўдыторыі былі два "непажаданых" літаратары – Лера Сом і Франц Сіўко. Гэта дзве яркія неардынарныя асобы, у чым маглі пераканацца прысутныя.



Лера Сом – паэтка, бард, – якая на сустрэчах прадстаўляе свае вершы пад гітару. Жыве і працуе ў Полацку. У гэтым горадзе пабачыла свет у 1966 годзе. З'яўляецца аўтаркай чатырох зборнікаў паэзіі і двух музычных альбомаў. Вельмі вядомы верш паэткі "Па дарозе з Вільні на Полацак", які ўвайшоў у рэпертуары іншых бардаў.

Франц Сіўко – празаік, выкладчык Віцебскага тэхналагічнага ўніверсітэта, старшыня абласной філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў (незалежнай арганізацыі, якую ўлады намагаюцца разваліць і знішчыць). Нарадзіўся ў 1953 г. ў в.Вята Мёрскага раёна, што непадалёку ад мяжы з Браслаўшчынай. Галоўны цэнтр гэтай акругі – Друя. Ф.Сіўко – аўтар зборнікаў прозы, у тым ліку: "Апошняе падарожжа ў краіну ліваў", "Удоі", "Асіметрыя". Пісьменнік даволі часта наведвае Браслаў, прымаў удзел у творчых сустрэчах.

На творчую вечарыну сабралася некалькі дзесяткаў браслаўцаў – інтэлігенцыя, моладзь. Гасцям удалося авалодаць увагай аўдыторыі і таму сустрэча падалася вельмі кароценькай. Аднак яна ўвабрала ў сябе і дэкламаванне вершаў пад гітару, і прадстаўленне празаічных твораў, і роздумы на розныя тэмы, і адказы на пытанні, і індывідуальныя гутаркі, і абмен уражаннямі.

На вуліцы яшчэ панавалі зімовая сцюжа і парывісты вецер, але прысутныя гэтага не заўважалі, зачараваныя цеплынёй і шчырасцю пачуццяў, што захапілі ўсіх ва ўтульнай зале.

Увазе чытача "Павета" прапануем пазнаёміцца з творчасцю Леры Сом і Франца Сіўко.

## Вершы Леры Сом са зборніка "Свабода Слова Зіма" (Мінск, 2005)

### Здані-II, дарожныя

Па дарозе зь Вільні на Полацак
Уцякаем ад навальніцы...
Нам маланкі б'юць наўздагонку,
Нам грамы разьдзіраюць вушы...
Па дарозе зь Вільні на Полацак,
Ад сталіцы і да сталіцы
Мкнуцца нашыя абалонкі,
Ненадзейны прытулак душаў.

Па дарозе зь Вільні на Полацак
Шаты дрэваў, крыжы і дахі,
Часткі вечнага краявіду,
Непаўторныя і ў падобным...
Па дарозе зь Вільні на Полацак
Адыходзяць начныя жахі,
Тыя, што працінаюць дзідай
Розум хіжы і самаробны.

Па дарозе зь Вільні на Полацак
Нам заўсёды імчацца дадзена.
Можа, нехта за нас памоліцца,
Да дзівацкіх учынкаў схільны...
І дарога зь Вільні на Полацак –
Вось адзінае, што не скрадзена...
Нам ня трапіць ніколі ў Полацак,
Нам ніколі ня ўбачыць Вільні.

* * *

Калі я зьнікну (гэта будзе хутка),
Ні сьледу не пакінуўшы, ні гуку,
Калі я зьнікну – першая з кагорты
Расчараваных і расчараваўшых,
Калі я зьнікну раптам, быццам зьнічка,

Так, вось яна была і вось згарэла, –
Ня здолееш ты нават узгадаць
Маё, такое простае, імя...
Калі я зьнікну? Гэта будзе хутка.

* * *

Пакіньце багоў у спакоі –
Ім хочацца ціха сканаць,
Сваё існаваньне другое
Ізноў на жыцьцё памяняць.

Праклёнаў і пацераў сьмецьце
Эпохі, стагодзьдзі, гады...
Мы, несамастойныя дзеці,
Баімся зайсьці не туды.

Чакаем, каб нехта за ручку
Ў сьвятло залатое адвёў,
Падцёр даравальнай анучкай
І сьлёзкі, і сьлінкі, і кроў...

Дзіцячага сну асалода...
Ды некалі грымне для нас
Сьвітанак нялёгкі – свабода,
Адзіна магчымы адказ.

* * *

Усе мы філёзафы,
пакуль не забаліць галава.
Гібеем над глёсамі,
навокал падрастае трава.
Нататнікі стосамі,
ды вось не прылятае сава...
Усе мы філёзафы –
пакуль не забаліць галава.

Усе мы каханыя,
пакуль не прагучала
«пакуль»...
Жыцьцё – штука танная,
пакольki не шкадуецца куль.
Шуруюць старанныя,
адзінкі выштурхоўвае нуль...
Усе мы каханыя...
пакуль не прагучала «пакуль".

Усе мы шчасьлівыя
калі-небудзь ды будзем, але!
Калі клапатлівыя
дзядкі пераляжаць на стале.
Худыя, юрлівыя,
Таўстыя, цнатлівыя,
Прыгожыя, цьвілыя,
Дурныя, гняўлівыя –
Усе мы шчасьлівыя
Калі-небудзь ды будзем... Але?..

## Дзённікавыя запісы Франца Сіўко са зборніка прозы "Асіметрыя" (Мінск, 2005)

* * *

Падчас сустрэчы ў бібліятэцы адзін з чытачоў:

– У французаў – вежа Эйфелева, у англічанаў – Таўэр, у італьянцаў – Калізей ды Форумы. А ў нас што?

Тады сумеўся ад нечаканасці, адно прамармытаў нешта пра Мір ды Нясвіж. І толькі вяртаючыся дадому згадаў сваё, з дзяцінства знаёмае. Тры сядзібныя дамы на адлегласці ў пяць вёрст. З іх адзін помнікам архітэктуры ў міжваеннай Польшчы быў аб'яўлены.

Усё «страбесавана», як кажуць у нас на Мёршчыне, «распасорана».



Бацькі і іх равеснікі ў краму за дзесяць, у касцёл за шэсць, на кірмаш за дванаццаць вёрст хадзілі-ездзілі. Мясціны, што на Індру па дарозе, што на Удоўту, што на Друю, – вачэй не адвесці. А паветра такое, што адно дыхаць ім з ранку да вечара. Наглядзеліся краявідаў, надыхаліся паветрам. А паўміралі амаль усе заўчасна – дусту наглытаўшыся, што ця-галі з прычэпаў у шаху пад наглядам калгасных паганятых, болькі пазапус-каўшы, якія б палечыць, ледзь з'явіліся, а ўсе з-за некальніцы не выпадае. І атрымалася: мясціны для жыцця найпрыдатнейшыя, а жыць няма каму.

* * *

У дзяцінстве бацькі прывучалі ўцалоўваць бабе і дзеду рукі. Ледзь угледзяць постаці на сцежцы, адразу «Баба з дзедам ідуць, ты ж глядзі, у руку не забудзься пацалаваць».

Рукі старых – сухія, з вузлаватымі пальцамі, але заўсёды, нягледзячы на цяжкую фізічную працу, чыстыя, са своеасаблівым пахам хлеба і маладой пожні.

А цалаванне вельмі хутка скончылася – пад кепікі суседзяў ды актыўнае «выхаванне» школай.

* * *

Бабе Тэсьцы, швагравага бацькі сястры, – пад дзевяноста. Мужык даўно памёр, сын адзіны ў Падмаскоўі жыве. Сядзім са старой у кухні, размаўляем. Кабета дасведчаная: радыё замежнае слухае, кніжкі чытае. Пра беларускія гурткі, што ў Якужах і Шальцінах перад вайною існавалі, апавядае, пра пастаноўку «Паўлінкі», паліцыяй польскай забароненую. Кніжачка невялічкая на стале – у чорнай вокладцы, з паўстлелым карашком. Разгортваю: «Голас душы» лацінкаю, 37-га года выданне. Адкуль, пытаюся. Язэп Малецкі, кажа, прэзентаваў, хочаш – вазьмі сабе на памяць. І зноў апавядае пра далёкае-пражытае – паважна, без каліва наракання на крыўды ды непамыснота лёсу. Пра беларускае – ані слова больш. Быццам намякае: мы адрабілі сваё, адбылі, ваша цяпер чарга, а нас больш неадкладная справа чакае.

* * *

З кабетамі вяцкімі пра капліцу гамонім. Лексіка памежных тубылак – сакавітая, гусценька перасыпаная словамі паўночна-заходняга лакальнага маўлення: недзека, вунака, ядзём, смелны, якочаць – дух займае. Развітваемся цёпла, як родныя – калі яшчэ давядзецца спаткацца?

– Да пабачэння! – кажу на адыход.

– Ага, давідзэнька! – адказваюць. – Пшыежджайце ешчэ, рады бэньдземы.

Быццам былі – і не стала.

* * *

Вёска мая, Мезарэча, – без адзінага карэннага жыхара. Усе з наваколля, пабраўшыся, на панскую зямлю папрыходзілі. Ці не таму гэткі разнабой у маўленні: нада – набя – надабя; саўсім – сусім – сусем; узноў – знова – зноваka. І толькі запаволена-думнае «гэта водзека» – як сімвал тутэйшае лучнасці.

* * *

У нас праваслаўны – значыць «левы» ці зрэдку «правы», але амаль ніколі не нацыяналіст; каталік – значыць «правы» ці нацыяналіст. І калі-нікалі «левы», уніят – значыць амаль заўжды нацыяналіст і «правы», але ніколі не «левы». Ці дачакаемся, што кожны можа быць і першым, і другім, і трэцім – беларускім?

* * *

Маці зубы забалелі – раптоўна і амаль усе адразу. Пайшла ў Друю да лекаркі рады даваць. А тая падлячыла адзін, а астатнія па адным праз дзень загадала паказваць. Хадзіла-хадзіла маці за дванаццаць вёрст, чыста збілася, а канца лячэнню не бачна. Суседка дапамагла «Дурная, торкні ўрачысе дзесятку, – кажа, – і паглядзіш, як усё лёгка зробіцца». Торкнула, і ў той жа дзень, сапраўды, пакуты скончыліся.

За год да смерці – рухавая яшчэ маці была і бадзёрая – сядзелі мы ўдваіх з ёю ў двары бараўлянскай бальніцы, абмяркоўвалі хуткую аперацыю. Грошы раптам дастала з кішэні: «На, торкні доктару». Адмовіцца хацеў – не змог. Хоцькі-няхоцькі пайшоў «торкаць».

Я на адным краі канапы, доктар – сярэдняга ўзросту мужчына родам з-пад Сянна – на другім. Я да яго з грашыма ў жмені, ён – ад мяне. Я да яго, ён – ад мяне. «Ці не хабарам мучаецеся? – пытаецца. – Не трэба. Вось вылечым вашу матку, тады і паставіце пляшку каньяку». Не давялося ставіць.

Маці нічога пра тую мітрэнгу на канапе не сказаў, так і адышла з перакананнем не торкнеш – не зрушыцца.

* * *

Тадзікі, Франакі, Антоны, Фрэдзькі, Рэнькі, Зосі былі ў маёй Павяцкай школе ў 60-х. Зараз на ўсю школу адно такое імя ці спаткаеш. Усе Наташы, Тані, Светы, Сашы, Андрэі. Менш за паўвека спатрэбілася, каб усё памянялася.

* * *

Баба Гэлька ў восемдзесят гадоў штонядзелю хадзіла на імшу ў касцёл за восем вёрст. Прыпыніцца каторы са знаёмых з падводаю, прапануе падвезці.

– А не, не, хорт яе, яшчэ спадніца пакомкаецца, – адкажа і шыбуе далей, ні на бездараж не зважаючы, ні на адлегласць.

* * *

Бабарыкі – паблізу Дзвіны вёска, настаўніка Антона Феліксавіча, што ў пачатковай школе нас вучыў, малая радзіма. Сам ён гімназію ў Друі скончыў, цікавы, дасведчаны быў чалавек. Сяброў-аднакашнікаў па замежжы ў ліхалецце параскідала, а ён амаль адзіны з усіх за настаўніка на вёсцы застаўся. Распіўся спакваля на вясковым бязлюддзі, але пад старасць узяўся за розум, кінуў захапляцца зеллем. Што нібыта манаграфію пра свае Бабарыкі складае, я з ліста да яго Яўгена Аніські даведаўся. Спытаў, ці праўда. «Меў намер калісьці, – адказаў, – ды так і не дайшлі рукі».

Дадзена было Богам, а не скарыстаў чалавек – што можа быць горшае?

* * *

У Бешанковіцкую парафію ксёндз малады прыехаў, Алег Будкевіч. І за кароткі час прывабіў не толькі каталікоў, а і шмат людзей старонніх. Карпатлівасцю працай, абыходлівасцю, беларускасцю непадробнаю, выкшталцонай. Гэтаксама годна і апантана Аляксандр Рапня на Пастаўшчыне, Вячаслаў Пялінак у Друі і Павяцці, Януш Прусіноўскі, дарэчы, паляк, на Сенненшчыне шчыруюць. З добрым ідуць да людзей, дабром і адгукаецца. Мы ж, бяздзейнасць уласную апраўдваючы, на люд наракаем. І цёмны ён у нас, і дурны, і збыдлячаны. І яшчэ пашаны да сябе ды справы сваёй патрабуем.

* * *

Дзядзька Стась, як і многія з нашых мясцін, пасля вайны па вярбоўцы ў заробкі на Данбас падаўся. Вярнуўся голы-босы, з букетам звычак, для тутэйшага люду нязвыклых. Адзінае, што прыдбаў, – мове расейскай збольшага навучыўся. Ужываў яе дарэчы і недарэчы, асабліва нападпітку. Працаваць адвыкшы, пакрысе красці пачаў. Неяк пеўня суседчынага падпільнаваў, засек і знёс у Друю на кірмаш. Даведаўшыся пра тое, вяскоўцы пасмяяліся адно: «Ту, што зробіш – з рускага чалавек мовіць!»

* * *

Настаўнік чарчэння на ўрокі з Друі на матацыкле прыязджаў. Заўжды пры капелюшы, калашыны штаноў, каб не спэцкаць падчас язды, шпалерынай абгорнутыя. У клас увойдзе: «Сёння бо-олт будзем чарціць!» І языком круць ды верць у роце, бы сапраўды там той болт засеў і ніяк не даць рады яго выпхнуць. Угледзім з вакна на дарозе: «Болт! Болт едзець!» Так і прахадзіў у балтах, пакуль у іншую школу не перавялі.

* * *

Калега-«ўсходнік» пра ўражанні ад камандзіроўкі на радзіму маю, Мёршчыну, апавядае: «Я ж думаў, там багацей ў вас паўсюль, а як гляну... Анічым не лепш, як на маёй «малой» радзіме». Дык на яго «малой» разрух хоць на вайну можна спісаць: спалена ўсё было, насельніцтва па колькасці дасюль у асобных раёнах да даваеннага ўзроўню не дацягвае. А маёй паўстагоддзя савецкай улады хапіла, каб у пустэльню ператварыцца.

# Браслаўшчына на старонках беларускай газеты "Сялянская ніва" за 1927 год

*(Грамадска-палітычная, літаратурная і гаспадарчая газета "Сялянская ніва" выдавалася ў Вільні з 1925 да 30-х гадоў XX ст. З'яўлялася органам Беларускага сялянскага саюза. Выйшла 199 нумароў.)*

У № 21 паведамлялася аб тым, што ў м.Казяны ўлады дазволілі адкрыць беларускую школу. У № 24 змешчаны некралог у памяць беларускага дзеяча Паўла Сапуна, сакратара гуртка Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (БІГК) у в.Цяцеркі, які памёр у 21 год. Артыкул "Тры гурткі" у № 30 расказвае аб дзейнасці ў в.Цяцеркі розных арганізацый. Гурток БІГК паставіў дзве беларускія п'есы: "Пан міністр", "Сурдут і Сярмяга". У вёсцы існуе яшчэ гурток Сялянскага саюза. А трэці гурток – вельмі шкодны, ён аб'ядноўвае гульцоў у карты. У наступным, 31 нумары, змешчаны матэрыял аб выступленні ў Браславе пасла "Странніцтва крэсовага", які агітаваў за польскасць гэтых земляў. У № 34 паведамлялася аб свяце ў засценку Углы, дзе заезджыя артысты паказалі дзве беларускія п'есы. Таксама пра беларускую пастаноўку піша нейкі Касцілінскі ў № 36. Гурток БІГК у Браславе паставіў п'есы: "Збянтэжаны Саўка" і "Модны шляхцюк". Спектаклі паказаны ў в.Зарэчча. Сярод артыстаў названы: Міхась Міцкевіч, Валя Пузырэўская, Антон Кардэль, Паўла Янушкевіч, Задор Пузырэўскі, Яніна Міцкевіч, Віктар Шыдлоўскі. Аўтар матэрыяла адзначыў, што польскі настаўнік угаворваў сялян не хадзіць на пастаноўку, агітаваў лепей скіравацца на польскую вечарыну ў в.Майшулі.

У № 39 змешчана інфармацыя пра беларускую Шаўлянскую школу, дзе вучылася 52 школьнікі. Школа спытвала ўціск з боку ўладаў.

Алесь Дудар у артыкуле "Аб нашым жыцці" распавядае аб клопатах жыхароў вёскі Укля. Вёска вялікая – каля сотні двароў, сяляне пакутуюць ад малазямелля. Возера, на беразе якога знаходзіцца вёска, арандуе пан Каган, сяляне наймаюцца да яго ў рыбакі.

У вёсцы Шаўляны, паведамлялася ў № 43, настаўніца беларускай прыватнай школы М.Булыга 15 траўня ладзіла спектакль. У № 47 – інфармацыя пра выбары ў Браслаўскую валасную раду. У склад рады ўвайшло 6 беларусаў, 3 палякі, 2 яўрэі. Улады незадаволены такім выбарам. Магчыма, будуць прызначаны новыя выбары. Тут жа паведамляецца, што арганізуецца судовы працэс над беларускім ксяндзом з в.Барадзінічы В.Шутовічам. У № 67 паведамлялася аб лекцыі беларускага дзеяча К.Юхневіча ў в.Дзерукі 18 верасня. У № 72 змешчаны матэрыял аб візітацыі ў Барадзініцкі касцёл арцыбіскупа Р.Ялбжыкоўскага. Службу правёў ксёндз Мажэйка. Сяляне прасілі, каб службы ішлі па-беларуску.

У № 77 пісалася, што школа ў Шаўлянах становіцца ўсё больш папулярнай. Яе ўжо наведваюць 130 дзяцей, яшчэ 40 выказалі жаданне. У некаторых польскіх навакольных школах налічваецца па 10 вучняў. Матэрыял "З'езд працоўных" у № 78 распавядае, што на з'ездзе мясцовага аддзялення польскай палітычнай партыі "Партыя Працы", які прайшоў у Браславе 16 кастрычніка, не было сярод прысутных ні сялян, ні іншых працоўных, адно толькі ўраднікі ды багатыя землеўласнікі. Як інфармуе № 79, у Браславе быў створаны павятовы камітэт Беларускага сялянскага саюза. Выбары адбыліся на канферэнцыі 23 кастрычніка. У камітэт увайшлі: Ізыдар Пузырэўскі з Зарэчча, Антон Пяцюкевіч з Цяцерак, Уладзімір Кантурэвіч з Шавялішак. У № 91 паведамляецца пра рэпрэсіі ўладаў супраць настаўніцы беларускай школы ў Шаўлянах М.Булыгі. Яна з мужам была арыштавана і адпраўлена ў Лукішскую турму ў Вільні. Настаўніцу вінавацілі ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Праз нейкі час вязняў выпусцілі. Цікавы артыкул быў змешчаны ў № 96 "Ад Браслаўя да Берліна далёка". Аўтар датыкаецца праблемы добраўпарадкавання мястэчка, дакладней, яго хібаў. Жыхароў прымушалі рабіць драўляныя тратуары з дошкамі ўздоўж, потым перараблялі іх і ўкладвалі дошкі ўпоперак. Брукоўку вуліц месцамі зрабілі неахайна. У гэтым жа нумары – інфармацыя аб лекцыі К.Юхневіча ў м.Іказнь. Лекцыя "Што трэба ведаць кожнаму беларусу" адбылася ў хаце А.Ласкевіча. Было поўна сялян, прыбыло нават трохі мястэчкоўцаў яўрэяў.

*Агляд зроблены паводле архіўных выпісак А.Панцялейкі.*

# Са звестак пра Беларускі Пасольскі клуб

Пасол (дэпутат у дзяржаўны Сойм Рэчы Паспалітай) Сялянскага Саюзу Канстанцін Юхневіч (абраны ад акругі, у склад якой ўваходзіла і Браслаўшчына).

*"**Канстанцін Юхневіч** нарадз. 15. XII. 1896 г. у Браслаўскім павеце. Земляроб. Вучыўся ў сельскагаспадарчай школе ў Шаўлях. Па звальненні з вайсковай службы вярнуўся на Бацькаўшчыну, дзе заняўся грамадскай працай. Сябра Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры ў Вільні і віцэ-старшыня Цэнтральнага Камітэта Беларускага Сялянскага Саюза. Сталы супрацоўнік "Сялянскай Нівы", "Беларускай Крыніцы" і інш. Прайшоў у Сойм па Сьвянцянскай Акрузе."*

Сьвянцянскага вокругу

(паа Браслаўскі, Дзісьненскі, Пастаўскі і Сьвянцянскі).

БРАТЫ БЕЛАРУСЫ!

[illegible]






**Помнік на могілках у Браславе**

# Браслаўшчына на старонках "Беларускага календара на 1929 год"




З табліцы аб колькасці беларускага насельніцтва па паветах.
*Браслаўскі павет: 47 340 беларусаў. 36,3 % ад агульнай колькасці жыхароў.*

З табліцы аб колькасці школ і вучняў.
*Браслаўскі павет: 160 школ, 15 054 вучняў, у тым ліку 7935 хлопцаў, 7 119 дзяўчат.*

З табліцы аб колькасці дзяржаўных польска-беларускіх школ.
*Браслаўскі павет: Снегі Ёдскай гміны;*
*Гліцёнкі Ёдскай гміны;*
*Казакі Навапагосткай гміны.*

З табліцы аб колькасці прыватных беларускіх школ.
*Браслаўскі павет: Шаўляны Ёдскай гміны.*

З дадзеных аб дэкларацыях на беларускія школы, складзеных у 1926-1927 гг.
*Браслаўскі павет: пададзены 94 дэкларацыі на 204 вучняў у 5 школьных акругах.*

З дадзеных аб кірмашах і гандлёвых днях.
*Браслаў: кірмашы 2-4 лютага, 23-25 красавіка, 1-3 кастрычніка. Таргі – кожныя сераду і пятніцу.*
*Друйск: кірмашы 17 студзеня, 9 траўня і 19 жніўня. Таргі – па суботах.*
*Друя: таргі па аўторках і пятніцах.*

# Раман-антыўтопія Джорджа Оруэла "1984". Ёсць над чым падумаць !

*Вы чыталі твор англійскага пісьменніка Джорджа Оруэла "1984"? Калі не, паспяшайцеся гэта зрабіць. Напісаны ў 1949 годзе, раман усе дзесяцігоддзі свайго існавання заставаўся актуальным. Як да нашай сітуацыі, то ён павінен стаць настольнай кнігай усіх, хто задумваецца над пытаннямі беларускай рэчаіснасці.*

*Не вельмі аб'ёмны тэкст утрымлівае вялізную колькасць трапных, прарочых, з глыбокай думкай выразаў. Прапануем чытачу некаторыя з іх.*

* * *

Прававерны не мысліць, ён папросту не мае патрэбы ў мысленні. Прававернасць – гэта стан бяздумнасці.

Самае характэрнае ў цяперашнім жыцці – гэта не жорсткасць і не хісткасць, а выразнае ўбоства, бляклaсць, апатыя. Азірнешся навокал – і не ўбачыш нічога, што б адпавядала той хлусні, якая ліецца з тэлеэкранаў, ці тым ідэалам, да якіх імкнецца партыя [улада].

І дзень, і ноч тэлеэкраны забіваюць твае вушы статыстыкай, пераконваюць, што ў людзей сёння болей ежы, больш вопраткі, лепш у хаце, больш вясёлыя забавы, што яны жывуць болей, працуюць меней і самі сталі буйней, здаравей, мацней, шчаслівей, разумней, адукаваней.

Ва ўсе часы, усе ўладары імкнуліся прымусіць падданых паверыць у выгадную для іх ману аб рэчаіснасці.

Калі з'явіўся друк, стала прасцей кіраваць грамадскай думкай, радыё і кіно дазволілі пайсці ў гэтым напрамку яшчэ далей. А з развіццём тэлевізійнай тэхнікі, калі стала магчымым весці прыём і перадачу адным апаратам, прыватнаму жыццю прыйшоў канец.

Даўно стала зразумела, што адзіны грунтоўны падмурак для алігархіі – гэта калектывізм. Багацце і прывілеі лягчэй абараніць, калі імі валодаюць разам.

Таму, хто ўладарыць, і збіраецца рабіць гэта далей, патрэбна ўменне скрыўляць пачуццё рэальнасці.

Мы ведаем, што ўладу ніколі не захопліваюць, каб потым ад яе адмовіцца. Улада не сродак, яна – мэта... Мэта ўлады – улада.

# Да 90-годдзя Відзскай наступальнай аперацыі першай сусветнай вайны (сакавік 1916 г.)

Наступленне расійскіх войск пад Відзамі ў сакавіку 1916 г. з'яўлялася часткай больш шырокай Нарачанскай аперацыі, якая праводзілася ў паласе 5, 1, 2 і 10-й рускіх армій, працягласцю каля 100 кіламетраў. Аперацыя планавалася на летні перыяд і была ўзгоднена з саюзнікамі Расіі на канферэнцыі дзяржаў Антанты ў Шантылы (Францыя). Аднак пасля таго, як французскія войскі трапілі ў цяжкае становішча пад Вердэнам, расійскае камандаванне вырашыла пачаць наступленне раней, каб адцягнуць сілы германцаў з заходняга фронту. Умовы для наступлення былі вельмі неспрыяльнымі, аперацыя аказалася дрэнна падрыхтаванай і наступаючыя войскі панеслі велізарныя страты. Загінула каля 80 тысяч воінаў расійскай арміі.

Асноўны ўдар наносіўся ў наваколлі возера Нарач. Наступленне сіламі 14-га корпуса 1-й арміі насіла дапаможны характар. Яно пачалося на досвітку 19 сакавіка на ўчастку Мешкелі-Дэксні, пазней у наступленне ўцягнуліся войскі, размешчаныя на больш шырокім фронце. Расійскія салдаты штурмавалі добра ўмацаваныя германскія пазіцыі і нідзе не дабіліся відавочных поспехаў. Страты былі вялізнымі. Напрыклад, у 71-м Белеўскім палку з 19 да 25 сакавіка было забіта 539 чалавек, прапала без звестак і паранена 1 118 чалавек. Атакі на Відзскім напрамку працягваліся да 27 сакавіка. Гэта аперацыя была апошняй спробай расійскіх войск кардынальна змяніць сітуацыю на Браслаўшчыне. Далей процістаячыя войскі вялі пазіцыйную вайну.

Вельмі багатыя гістарычныя матэрыялы па Відзскай наступальнай аперацыі зберагаюцца ў Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве. Прапануем фрагменты некаторых дакументаў.




**Памятная дошка ў Богінскай царкве. У тэксце згаданы прапаршчыкі Татаўраў і Сіроцін, якія загінулі ў час наступальнай аперацыі**

## З апісання баёў 72-га Тульскага пяхотнага палка з 18 да 25 сакавіка 1916 года.

21 сакавіка. ... Пасля моцнай артпадрыхтоўкі нашаму палку была дадзена задача атакаваць участак перад в.Кліпы... Да 2 гадзін дня полк заняў зыходнае становішча. Заледзьве першыя ланцугі галоўнай часці паспелі паказацца на ўзлеску (не даходзячы в.Харонжышкі крокаў 700), як немцы адкрылі ўраганны артылерыйскі агонь па ўсяму лесу. Тут, на ўзлеску, былі забіты прапаршчыкі Татаўраў, Сіроцін, паранены прапаршчыкі Глебаў, Сатхарадзе, Прыцiскаў, ніжніх чыноў выбыла каля 200 чалавек. Нягледзячы на такое спусташэнне ў шэрагах палка, ланцугі, маючы наперадзе сябе камандзіра батальёна капітана Бівала, працягвалі бясстрашна рухацца на в.Харонжышкі.

Як толькі батальён наблізіўся да в.Харонжышкі, агонь яшчэ больш узмацніўся і людзей дзесяткамі зносіла з пагорка. На вышынях былі паранены капітан Жэлязоўскі, прапаршчыкі Кагарлiцкі і Якаўлеў другі. Вёска Харонжышкі ... перайшла ў нашы рукі. Частка немцаў была перабіта, частка не паспела адысці, пакінуўшы параненымі некалькі чалавек 42-га нямецкага палка.

Да гэтага часу другі батальён развярнуўся і ланцугом рушыў [наперад] пад камандаваннем падпаручніка Мілаўзорава. Гэта было выкрыта праціўнікам і артагонь перанеслі на другі батальён, ад якога засталося дзве трэці складу... Да двух гадзін начы ланцугі дайшлі да дроту і людзі пачалі яго рэзаць. Ракеты сталі ўзрываць па 4-5 адразу і па наступаючых быў адкрыты мацнейшы кулямётны агонь... Стала днець і працягваць наступленне зрабілася немажлівым, занадта вялікія страты панёс полк.

*Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў.*
*Ф.2686, воп.26, арк.3-5 адв. Пераклад з рускай мовы.*

## З журнала ваенных дзеянняў 70-га Ражскага пяхотнага палка за сакавік-красавік 1916 г.

19 сакавіка.

У тры гадзіны ночы баявы парадак павёў наступленне на ўмацаваныя пазіцыі праціўніка паміж вёскамі Мешкілі – Кліпы, а каля 3 гадзін 50 хвілін ночы праціўнік адкрыў моцны ружэйны, кулямётны, а пазней і артылерыйскі агонь, пры гэтым узмоцнена асвятляючы мясцовасць ракетамі ... толькі часцям 4 і 13 рот удалося прабрацца за першы рад драцяной загароджы праціўніка, дзе яны былі часткова знішчаны яго агнём, часткова адышлі назад. Тут загінуў камандуючы чацвёртай ротай штабс-капітан Глоба-Міхайленка, які атрымаў 7 раненняў, у тым ліку некалькі смяротных. Цела яго некалькі пазней было вынесена яфрэйтарам Маловым з двума разведчыкамі... Страты палка: забіты два афіцэры – штабс-капітан Глоба Міхайленка і падпаручнік Даўкша.., ніжніх чыноў забіта 13, паранена 147 і 31 прапаў без звестак (засталіся ў драцяных загароджах праціўніка і былі імі падабраны)...

23 сакавіка.

... Бесупыннасць баёў, бяссонныя ночы, неспрыяльныя атмасферныя ўмовы: дождж, а потым значны мароз моцна выматалі людзей, яшчэ да таго шмат хто з іх абмарозіў сабе рукі і ногі. Захварэла і выбыла са строю шмат і афіцэраў.

24 сакавіка.

У тры гадзіны ночы наступленне пачалося па ўсяму фронту баявога ўчастка дывізіі. Потым паступілі данясенні аб прасоўванні наперад, аб пераадоленні першага раду драцяных загароджаў праціўніка, аб пачатку рэзкі другога раду. Адначасова з гэтым паступілі данясенні аб стратах ад артылерыйскага агню... На данясеннях камандзіраў батальёнаў каля 50 % людзей, што засталіся ў страі, былі небаяздольнымі з прычыны пераўтомленасці і хвароб.

*Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў.*
*Ф.2684, воп.2, арк.18, 18 адв., 21, 22. Пераклад з рускай мовы.*

---

У №6 за 2005 г. выдання "Павет" была змешчана інфармацыя пра нямецкую паштоўку з відам на Відзы перыяду першай сусветнай вайны. Паштоўка была адпраўлена нямецкім ваеннаслужачым у 1916 г. і выявілася на распродажы ў сучаснай Германіі. З дапамогай Уладзіміра Кандрусевіча (Мінск) быў зроблены пераклад тэксту паштоўкі:

*Палявая паштоўка*
*Сям'я Арберта Кляйна. Берлін.*
*Расія, 10. 12. 1916 г.*

*Дарагія брат, швагерка, дзеці.*

*Сёння ў мяне была магчымасць даслаць паштоўку з відарысам і я вырашыў вам яе даслаць. Спадзяюся, што яна знойдзе вас у найлепшым здароўі. У мяне пакуль усё добра. З найлепшымі пажаданнямі.*

*Ваш Вільгельм.*

Як бачна, Вільгельму найбольш істотным было паведаміць сваякам аб тым, што ён жывы і здаровы. Такая вестка – найлепшая з фронту. Тэкст напісаны скорапісам, які вельмі цяжка чытаецца. Пераклад зрабілі госці Беларусі з Аўстрыі. Адна з іх, жанчына сталага веку, згадала, што яе бацька дасылаў лісты і паштоўкі, напісаныя такім жа почыркам. Дарэчы, апошняя вестачка ад яго прыйшла з тэрыторыі суседняй Латвіі.

Ці дачакалася сям'я свайго Вільгельма, які ваяваў пад Відзамі, невядома.




Паштоўка нямецкага салдата, адпраўленая з раёна баявых дзеянняў пад Відзамі



Яшчэ адна нямецкая паштоўка з Відзаў. Зберагаецца ў калекцыі У.Ліхадзедава (Мінск)

# Першая сусветная вайна на Браслаўшчыне.



Так называецца выстава ў памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея. Прымеркавана яна да 90-гадовых юбілеяў пачатку баявых дзеянняў на тэрыторыі Браслаўшчыны (восень 1915 г.) і Відзскай наступальнай аперацыі расійскіх войск (сакавік 1916 г.).

Быў час, калі пра першую сусветную вайну на тэрыторыі нашага раёна амаль нічога не было вядома. Цяпер з'явіўся цэлы шэраг публікацый, якія зроблены на падставе матэрыялаў, здабытых супрацоўнікамі Браслаўскага музея. Шмат новых звестак па ўмацаваннях і пахаваннях выявілі краязнаўцы Дрысвяцкай, Карасінскай, Грытунскай школ. Публікацыі і краязнаўчыя распрацоўкі шырока прадстаўлены на выставе.

У музеі склалася ўжо даволі значная калекцыя прадметаў па тэме першай сусветнай вайны – зброя, вайсковы рыштунак, фотаздымкі, паштоўкі і іншае. На стэндах прадстаўлены найбольш цікавыя прадметы.

Напрыклад, рукапісная схема пазіцыі расійскіх войск у наваколлі вёсак Юцішкі, Трабшы. У гэтыя мясціны выязджалі супрацоўнікі музея і на пазіцыях расійскіх войск знайшлі шмат цікавых прадметаў: гільзы, кажухі гранат, гузікі, біклажкі, часткі супрацьгазавых масак, рэшткі гармоніка, кацялкі, аптэкарскі посуд.

Выстаўляецца афіцэрскі фотаальбом, у якім каля 40 фотаздымкаў перыяду вайны. Большасць з іх зроблена на Браслаўшчыне.

Асобны раздзел прысвечаны Відзам, дзе адбываліся жорсткія баі ў 1915 г. і ў час правядзення наступальнай аперацыі 1916 г. На стэндах – фотаздымкі, копіі карт, вайсковы рыштунак, знойдзены на месцах баёў.

Браслаў у гады вайны з'яўляўся тылавым прыфрантавым мястэчкам, у якім размяшчаліся шматлікія ўстановы, штабы тылавых частак. На выставе адлюстравана гэта старонка гісторыі Браслава. Ёсць матэрыялы пра С.Нарбута, які ўзначальваў мясцовую лячэбніцу, дзе лячыліся і вайскоўцы. Браслаўскі лекар быў мабілізаваны на службу і насіў у гады вайны вайсковае адзенне. Змешчаны вельмі цікавыя дакументы Браслаўскай царквы 1916-1917 гг., якія датычацца шлюбаў вайскоўцаў з мясцовымі дзяўчатамі і кабетамі.

Сярод найбольш адметных прадметаў – балон для атрутных газаў, знойдзены на нямецкіх пазіцыях, прыстасаванне для хуткага разгортвання загароджаў з калючага дроту, рэшткі агнястрэльнай і халоднай зброі.

Яшчэ адзін раздзел выставы прысвечаны землякам, якія былі прызваны ў расійскую армію і змагаліся на франтах першай сусветнай вайны. Экспануецца шмат фотаздымкаў, дакументаў.

Як вядома, вайна нанесла значныя страты гаспадарцы Браслаўшчыны. У некаторых мясцовасцях,прылеглых да франтавой паласы, разбурэнні былі суцэльнымі. Аб разбурэннях на Браслаўшчыне нагадвае наступны экспанат – замалёўка драўлянага касцёла ў Дрысвятах, які быў спалены ў час баёў 1915 г. Замалёўка зроблена ў 1934 г. па даваеннаму фотаздымку. Памятны запіс унізе сведчыць, што храм стаў ахвярай вайны.

«ПАВЕТ» DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)